


# ТУСОЎКА ДЫЛЕТАНТАЎ

*Склад і змест гэтага выпуску "ЗНО", здаецца, патрабуе хоць якога тлумачэння. Як добра вядома нашаму чытачу, акцэнт у сшытку звычайна рабіўся на культуралогіі, філасофіі ды літаратуразнаўстве, а тут раптам прастору сшытка запоўніла ўласна літаратура. Болей за тое, нават не літаратура ўвогуле, а толькі тыя яе формы, якія хай сабе вельмі прыблізна і ўмоўна, але можна залічыць да прозы.*

*Ну што сказаць з нагоды гэткай метамарфозы? Неяк так атрымалася, што патроху да "ЗНО" пацягнуліся са сваімі тэкстамі тыя, што шукаюць сябе ў нетрадыцыйным, скажам так, пісьме. (Хаця тут мушу заўважыць, што сутнасць феномена традыцыі ўжо даўно дыскрыдытаваная яе артадаксальнымі адэптамі і панятак "традыцыя" сёння ўжо не мае хоць якога ўцямнага значэння.) А калі людзі пішуць нейкія тэксты, то нехта ж павінен іх друкаваць! Вось мы і друкуем... Агулам, зараз, каб не расцягваць пакуты і чытача і рэдакцыі (на жаль, усё роўна не атрымалася заціснуць усіх у гэты агул).*

*Разумею, што спасылка на "пакуты" не выглядае лішне сур'ёзнай, бо надта розныя тэксты патрапілі ў адну падборку і, пэўна, хоць каму замінае іх належнасць да гранічна супрацьлеглых эстэтычных кантэкстаў. Бо калі, скажам, постмадэрніст яшчэ неяк стасуецца з транслагістам, то алегарыст ні да аднаго, ні да другога аніяк не тарнуецца. Як і да алегарыста сюррэаліст, а да сюррэаліста метаніміст. І гэтак далей...*

*Адным словам, у мяне ні з якога боку не атрымлівалася хоць нечым апраўдаць гэты дзіўны хаўрус, пакуль я шукаў аргументы на ягоную карысць у гушчары эстэтычных дыскурсаў.*

*Натуральна, не там шукаў. Калі што і яднае прэзентаваных тут аўтараў, улучна з аўтарам гэтых радкоў, то гэта — дылетантызм.*

*Дылетант (ад лацінскага delecto — цешыць, забаўляць) — той, хто творыць найперш сабе на ўцеху. Ён піша не таму, што чымсьці ці кімсьці змушаны пісаць, а таму, што ёсць жаданне крэмзаць паперу. З гэтага дылетант і адрозніваецца ад прафесіянала, які павінен рабіць тое, што ад яго чакаюць рэдактар, чытач, ідэалагічны заказчык...*

*Дылетант нікому нічога не вінен, ён робіць адно тое, да чаго паклікае яго ўласная хэнць. І паколькі дылетанту ні да каго, акрамя самога сябе, няма ніякай справы, то ён можа распачаць аповяд, дзе яму закарціць, і гэтаксама завершыць яго, яму вольна пісаць са знакамі прыпынку ці без іх, ствараць тэксты наскрозь празрыстымі ці татальна герметычнымі, ідэалагічна заангажаванымі ці абсалютна апалітычнымі...*

*З такой вялікай выгоды дылетант, акрамя самой выгоды, натуральна, нічога не мае, бо паколькі яму ніхто не патрэбны, то і ён нікому не патрэбіцца. Прынамсі, так было да апошняга часу. Сітуацыя перамянілася ў эпоху постмадэрнізму, калі літаратура перастала (перастае) быць запатрабаванай чытачом і, увогуле, хоць кім запатрабаванай, — з чаго дылетант уроўніўся з прафесійным пісьменнікам... Ды не толькі ўроўніўся...*

*Дылетант — герой постмадэрновай прасторы. Не ён прычына гэтай прасторы, але ён найлепей прыдаўся на ролю яе галоўнага дзейніка.*

*Гэты выбар не быў выпадковым. Справа ў тым, што "генетычная" незалежнасць дылетанта ад хоць якіх эстэтычных ды этычных канонаў, не раўнуючы з кім яшчэ, падыходзіць да сітуацыі постмадэрнізму, якая таксама паўстала на незалежнасці ўсяго ад усяго...*

*На татальнай незалежнасці яны і паразумеліся.*

*Пасля ўсіх гэтых разваг і з улікам вядомых чытачу сімпатый "ЗНО" да постмадэрнізму, здаецца, робяцца зразумелымі тыя падставовыя прычыны, якія дазволілі спалучыць у адным хаўрусе аўтараў, што ЯШЧЭ не адбыліся ў падзеі мастацкай прозы, і аўтараў, што ЎЖО не адбыліся... Спалучыць, нягледзячы на іх належнасць да адрозных эстэтычных кантэкстаў...*

*... Тусоўка дылетантаў ля ганку постмадэрновага дыскурсу.*

**Валянцін АКУДОВІЧ**

Сяржук МІНСКЕВІЧ

# АБСУРДЭЛЬКІ



## УЗЬЛЁТ — УСХОД

Самалёт з маленства баяўся вышыні. І вось калі яго ў аэрапорце Мінск-1 прымусілі ўзьляцець, ягоныя крылы і хвост так задрыжэлі ад страху, што ўзялі дый адарваліся, чым вельмі збянтэжылі пасажыраў. Тыя гучна загалакалі, затопалі каля дзьвярэй і нават агульным высілкам прыадчынілі іх.

Самалёт на хвіліну разгубіўся, бо пасажыры без дай прычыны хвалявацца не будуць. Але, пралятаючы каля доміка 1-га зьезда РСДРП, ён убачыў сваё адлюстраваньне ў рацэ Сьвіслач і раптам адчуў, што зрабіўся падобным на паважаны ўсімі транспарт.

Зьмененым голасам самалёт важна прамовіў:

— Асьцярожна, дзьверы зачыняюцца. Наступная станцыя "Усход".

## ЯМА

На тратуары ляжаў чалавек і крычаў:

— Я яма! Я яма!

А таму, што ён ляжаў вельмі хітра — на самым вузкім месцы — вакол сабраўся натоўп, які ўголас шаптаў пра міліцыю, хуткую дапамогу, рост цэнаў, неверагодны выпадак з дзевятага паверха дома нумар 5, — і чухаў свае талерантныя патыліцы.

— Слухайце, я ж невялікая яма!

Тады два-тры самыя адчайныя сьмельчакі пераступілі яго колькі разоў туды-сюды... Натоўп змоўк, пераглянуўся і ў поўным складзе таксама пераступіў.

"Вось так, я сапраўды нядрэнная яміна,— з гонарам падумаў чалавек.— Эх, каб яшчэ нехта ў мяне ўваліўся".

## ТРУБАЛЁТ

У Акафона Пелястовіча былі вушы.

І былі яны гэтак закручаны, што стваралі вакол сябе турбулентныя абуркі паветра. Акафон Пелястовіч нават баяўся бегаць. Хуткасьць не разьлічыш, і панясуць вушы-лебедзі куды-небудзь метраў на сто — сто чатыры. Але гэта нічога, гэта нават прыемна самому палётаць.

Іншая рэч, раздражнялі ягоныя вушы ўсіх навокал да разьюханага шчасьця. Зьбяруцца гэтак мамкі, бабкі, суседкі, дзядкі, мужычкі, цельпукі і падлеткі розныя,— папяроскі смаляць і семкі грызуць, Акафона Пелястовіча чакаюць. А як здалёк прыцікуе яго нейкі хлапчук-насакоп, як завішчыць "Трубалёт, Трубалёт",— усе ўраз — на ногі і давай гнаць Акафона Пелястовіча. Ну а той што, два крокі хутчэй за норму — і ў паветры, толькі вецер у вушах сьвішча.

Ўю-уууўць, да цэнтра пагналі.

Ўю-уууўць, да мікраraёна.

Накшталт народнага паветранага зьмея.

Пакуль Акафон Пелястовіч не зачэпіцца за галіну дрэва ці не павісьне на громаадводзе, ня спыняцца. А спыняцца, яшчэ гадзіну сумесна паабсмакуюць усю радасьць, рукамі паперапакажуць, як ён стромка ў піке ўваходзіў, і толькі тады па хатах паразыдуцца.

І куды б Акафон Пелястовіч не параязджаў, у якую павятковасьць не хаваўся, усюды было тое самае.

Вось і ўсё цікавае.

А далей можна было дадаць, што замест таго каб аддаць свае вушы на ўсенавуковае дасьледаваньне ў аэрадынамічнай трубе і падараваць усім людзям магчымасьць лётаць, Акафон Пелястовіч зрабіў сабе апэрацыю па раскручваньні вушэй і нават, здаецца, ажаніўся.

## ГУЗАК

Адзін лысы Іван Трахімук вельмі любіў насіць шапкі. Але ягоная лысіна была гэткай лысай, бліскучай і сьлізкай, што ўсе шапкі зь яе проста сасьлізвалі. Едзе, значыцца, Іван Трахімук у аўтобусе, а шапка р-раз і сасьлізьне. А лысіна-то не заўважае, што шапкі ўжо няма, ёй жа здаецца,— шапка нацягнута па самыя бровы... Гэтак і выйдзе на прыпынак без шапкі. Але ж халодна! І калі толькі шэрань зьлятала з галавы пад ногі, а чаравікі пачыналі сьлізгаць па зямлі і не даваць рухацца наперад, Іван Трахімук разумеў, што шапка зьнікла беззваротна.

Увогуле, апрыкла Івану Трахімуку разьбіваць нос аб няроўнасьці ходніка, захацеў ён раз і назаўсёды пазбавіцца гэткай недарэчнасьці. Вырашыў ён набіць сабе такі гузак, што ня толькі шапкі зачапіцца за нешта было б, але і шэрань з галавы ня падала б, а каб і падала, дык не пад ягоныя ногі, а за сьпіну — няхай іншыя сьлізгаюць, але ня ён! Ну вось, разагнаўся Іван Трахімук і бац галавой аб падлогу. Гузак нічога сабе атрымаўся, усё люстэрка заняў, куды ні зірні!

Але пасьля таго забыў Іван Трахімук, дзеля чаго бацаўся галавой. З таго часу і ходзіць ён зь непакрытым гузаком па вуліцах, народ зьдзіўляе.

## КЛОЦЯ

Аднойчы дзеўчына зачапілася зубамі за гзымс майго балкона. Вецер яе туды-сюды верціць, а зубы яе глыбока ў бетон увайшлі. Ледзьве выцягнуў.

— Клацільда,— сказала яна,— можна Клоця. Зяхнула вось вышэй паверхам.

— Нічога, з кім не здараецца.

— Іншая даўно б разьбілася. А я... Казала маці, пайдзі да артадонта, выправі сківаццу, не пайшла...— Яна магутна задыхала.— Я гатова аддзячыць...

Ейныя вочы, як дзьве ўлонкі, пачалі ўцягваць мае абрысы, а потым і мяне самога. Мае ногі адарваліся ад падлогі, я паляцеў насустрач ейнага роту.

— Не!— я пляснуўся на падлогу...— Не магу прыняць вашай падзякі... І ўвогуле,— закрычаў я,— маці трэба слухаць!!!

## ПРОСТА ДЭТЭКТЫЎ

— Ратуйце, забіваюць!!!— правішчалі ў слухаўцы, і адразу пачуліся гудкі...

Прыватны дэтэктыў Ваня Джонс сямімільнымі крокамі пераскокваў пралёты лесьвіцы. Там, на гарышчы, труп! Жонка трупа зь сякерай і патэльняй у руках — на кухні, без прытомнасьці, муж-нябожчык на гарышчы — без галавы! Увесь дом дагары нагамі, злачынцы ўсчынілі сапраўдны пагром.

З разгону Ваня Джонс вынес дзьверы і ўваліўся ў цемру з кольтам на выцягнутай руцэ. Паступова, як вочы звыкаліся да змроку, выразна праяўлялася карціна жахлівай трагедыі. Труп, увесь у крыві, ляжаў прытулены сьпінай да коміна; лысую, нібыта яйка галаву з велізарнымі выпучанымі вачыма недарэчна перакручаныя рукі трымалі на грудзёх.

Ваня Джонс зрабіў два крокі наперад і... нервова скалануўся. Труп марудна прыўстаў і, не адпускаючы сваёй галавы, падаўся да прыватнага дэтэктыва.

"Што рабіць,— пачаў хутка разважаць Ваня Джонс,— стрэліць ня можна, труп — наглядны доказ, даць хук левай у ніжнюю сківаццу — дык ён і гэтак без галавы".

І калі труп падступіў амаль ушчыльную, Ваня Джонс убачыў, як напружана пачаў крывіцца рот лысай галавы:

— Ужо тады я быў нябожчык! Ужо тады я быў труп! Ужо тады я быў без галавы, калі ажаніўся з гэткай пачварай... У-у мая галава,— застагнаў труп і ўпаў.

Ваня Джонс убачыў, што гэта быў гарбун, і на яго патыхнула вострым пахам кетчупу.

## МАШЫНА, КІРОЎЦА, СЛУП

Ехала машына і спынілася.

Ёй, відаць, ня вельмі хацелася спыняцца, бо яна так скрывілася ад крыўды, так напружылася, што выплюнула свайго кіроўцу.

І той нечакана ўбачыў перад сабой вялікі шасьціплоскі, шэры, бетонны, да неба, з электрапасам, зь лямпачкай і птушынымі плямкамі — с л у п.

— Ты чаго гета, гета, гета, гета... тут стаіш?— спытаў кіроўца.— [illegible] цябе мазгі ёсць?

— Раней не было, [illegible] слуп,— а цяпер — во, глядзі.

— М-та-а... Калі ўжо [illegible] слупах вырастаюць мазгі, мне больш няма чаго тут рабіць.

І памёр.





**29 красавіка ў роднай вёсцы Уселюб памёр Андрэй Пяткевіч, крыху не дажыўшы да 29 гадоў. Для нас, яго сяброў, гэта ўсё яшчэ здаецца недарэчнай містыфікацыяй, на якія быў так ахвочы Андрэй. Але гэта праўда. Мы ўсе ведалі, што ён невылечна хворы, стараліся ня думаць пра сьмерць, а выходзіць — ня думалі пра сябра.**

**Блізкія адыходзяць тады, калі мы перастаем помніць пра іх. Уся паэзія Андрэя Пяткевіча была паэзіяй разьвітаньня. “Я пайшоў у блізкі сьвет...”, “Адыходзячы йдзі....”, “Не замінай мне больш, не замінай...”, “А потым змые сьлед вада...”, — вось радкі пра сябе з розных вершаў, так умеў пісаць толькі ён, ператвараючы звычайныя словы ў вусьцішную трагедыю. Здавалася, гэтая трагедыя жыве ў ім і рухае яго наперад. Здавалася, Андрэй паліць за сабою масты, разрывае апошнія повязі з блізкімі толькі — дзеля яе, толькі дзеля гэтай нявedaмай мэты. Такія, як ён, пакінены быць паэтамі. Тыя, хто і сёньня ня бачыць яго ў літаратуры, не разумеюць простае рэчы, што для іх паэзія — прафесія, для Андрэя — наканаванасьць.**

**Ён быў самотны дысідэнт, апошні кінік, беларускі Дыяген, гэта ведалі ўсе, але мала хто ведаў, што Андрэй яшчэ школьнікам, студэнтам у колішнія часы, маючы хворае сэрца, не пабаяўся стаць у апазіцыю да ўлады, у абарону роднае мовы. Ён сам называў сябе кінікам, “філёзафам жыцьця” і пісаў:**

***Мая бочка калгас,***
***А я сам Дыяген.***
***Не пайду я да вас,***
***Не схілю я калень.***

**Мы ня ведаем, як ён перанёс бы [illegible], якi сёньня чыняць. [illegible] ведаем, што ён думаў у апошнія дні свайго жыцьця.**

**Бывай назаўсёды, Андрэй. Даруй нам.**

**Сябры, ТВЛ, рада “ЗНО”**

Іван ПАЛУБЯТКА

# “НАТАМІЛАСЯ ДУША”



## ЧОРНАЯ БЫЛЬ

Іду па чорнай раллі, нясу чорную сяўню і сею чорнае збожжа.

Наўкол мяне буяе чорная рунь.

Бяру касу і кашу чорную збажыну.

Чарната наганяе на мяне жах, я не магу стрымаць сябе і бягу прэч.

На маё чорнае поле прыходзяць чорныя людзі, вяжуць чорныя снапы, ставяць чорныя бабкі.

У маім краі ўсё афарбавана ў чорны колер.

Дзень стаў ноччу.

Чорнай ноччу чорныя людзі мелюць чорнае зерне, з чорнае мукі пякуць чорны хлеб.

Я ламаю чорны бохан і раздаю па кавалку.

Людзі баяцца браць мой чорны хлеб і мкнуць прэч ад майго пачастунку.

З маіх вачэй цякуць чорныя слёзы.

Чарнею сам.

## ЖЫЦЦЁВЫ ДАВЕДНІК

Выпадкова сустракаю знаёмага ды даведваюся,

што мой найлепшы сябра хворы і знаходзіцца ў лякарні.

Маю жаданне праведаць яго, паспяшаю на аўтастанцыю ды даведваюся,

што аўтобусы не ездзяць, ім надакучылі няўдзячныя пасажыры.

Вырашаю затэлефанаваць, засведчыць сваю занепакоенасць, ды даведваюся,

што тэлефаністкі натаміліся і замоў болей не прымаюць.

У роспачы крочу няведама куды, трапляю туды, куды мне трэба, і даведваюся, які маленькі навакольны свет. А яшчэ даведваюся, што ўсё, чаго я хацеў — мае мройныя памкненні; я толькі марыў сустрэць сябра, пабываць на аўтастанцыі і затэлефанаваць. Мне робіцца сумна, і я далей крочу ў нікуды. Крочу ды даведваюся,

што сонца ласкавей за іншага чалавека;

што мае дзіцячыя сябры даўно ўжо дарослыя, а іх дзеці раз’ехаліся па ўсім свеце і яны жывуць адны;

што пры жывых бацьках можна быць сіратою;

што мець каханага чалавека не значыць быць шчаслівым;

што гром пасярод зімы не навіна, а звычайная з’ява;

што людзі хлусяць толькі самім сабе...

Я проста гартаю жыццёвы даведнік, у якім нехта павырываў і пераблытаў праўдзівыя ды хлуслівыя старонкі, а я ўсё ўспрымаю на веру.

## ТОЙ БЕРАГ

Рэкі падзялілі нашу зямлю на берагі: гэты бераг і той.

Дзе б мне ні выпадала быць — я на гэтым беразе.

А мне хочацца на той. На тым заўжды лепш. Так кажуць людзі.

Я мкну ў пошуках чоўна, плыта, лодкі, парома, моста. Шукаю доўга і безвынікова. Урэшце застаецца толькі адна надзея — брод.

І зноў доўгія пошукі плыткага броду. Няма яго.

Хай сабе. Іду дзе патрапіла. Напачатку плытка, вада мне толькі па калена, потым па грудзі. Брыду далей з надзеяю, што рэчка хутка памялее. Вада ўжо пакрывае мне плечы. Не спыняюся.

Нечакана з’яўляецца выступ грады.

Што ёсць сілы бягу вадою да таго берага. Падаю. З радасці абдымаю зямлю.

Неверагодна.

Я на гэтым беразе. Тыя, хто выправіў мяне сюды, засталіся на тым.

На тым беразе заўжды лепш.

Я мкну на той бераг.

## НЕПЕРААДОЛЬНАЕ

Я не магу болей пісаць!

Натамілася душа. Думкі блытаюцца. Толькі словы ўюцца: бясконца і доўга. Галоўная гераіня — цнатлівая старэча, закаханая да смерці ў мясцовага бабніка, якому пранцы з’елі нос, бяздумна спакушае маладзенькага святара і яны займаюцца каханнем прама на катэдры на вачах у вернікаў. З бажніцы з’едліва ўсміхаецца Маці Божая. Пранцаваты бабнік вырашае адпомсціць усім жанчынам у селішчы і падзяліцца з імі сваёю хваробаю. Кабеты ладзяць да яго хаты калейку, спрачаюцца, каму быць першай, лаюцца, усчыняюць бойку.

О, Божа! Навошта ты адняў у мяне розум?

Я не магу болей пісаць!

Дзярэ горла трэці певень. Сталёвымі сталі вейкі і самі плюшчацца вочы, галава схіляецца набок, літары расплываюцца ў вялізныя павукі, і яны бягуць з аркуша паперы няведама куды. Я намагаюся рукою сабраць іх да аднаго месца, але павукі раптоўна ператвараюцца ў коней. Рашуча накрываю паперу далонямі. З-пад пальцаў вылятаюць дзіўныя птушкі і разлятаюцца па пакоі.

О, Божа! Я хачу адпачыць. Забыцца вечным сном. Дзе мая вяроўка, дзе мой пісталет, дзе ўрэшце мая атрута?

Я не магу болей пісаць!

Мікалай ШЫРОКІ

# ... СЦІШАНЫ МУДРЫХ СПЕВЫ...



... а па чэрапу, глянь — Ваўкі, бягуць цяжка, цёмна ў поле, у небе цёмна, зораў не бачна, не сыпануў сёння Айчым надзей, вецер у пустых вачаніцах вые шалёную волю, з зялёных вачэй падымаецца воўчы дым, быццам вясною — сонца вымыкае небу грахі, што мы хавалі... з магілаў, з нашых снегавых позірк невідушчы ў сляпое неба, смерць спыніла свае скокі, толькі Ваўкі паміж намі хціва шкамутаюць на кавалкі час, дзеці не нараджваюцца ў статку рэкамі крыві цяжарным, лёс вока згубіла, у шматкі поўсць, пагоня страху, з-пад снегу да болі сонца, сатлелая вясны кашуля, з чарапамі ў прагалах, прывід статку — цень без ветру, а над чэрапам, глянь, неба, светлы строп апраметнай, яе залатыя ваўкі вартуюць подых ночы, лагода ў пустых вачаніцах і сцішаны мудрых спевы...

* * *

... калі я стаю голы, спінай да дзвярэй і шкарпэткі мыю, я ведаю, цябе ўжо не развесяліць, а позірк мой у люстэрку, дзе збіраюцца аскепкі сонцаў, а навука мая з золата, а пісьмы мае завея замётвае, дачакацца вясны і расці з кожнага следу, каб заблудзіцца і рваць апранаху зямлі і птушкай бяскрылай глядзець не міргаючы на нечы апошні рух, ты сненне, шапценне сцяблінаў, расу збіваю і нехта развітваецца маўкліва з ценем, я харом — і ў ім паміж пальцамі тыгры мурлыкаюць гадоў чаргаванне, кіпцюрамі? я кіпцюры ім абгрызваю, цалуй ім лапы, а я куслівы, ці вярнуцца да шкла, каб уздрыгнуць, пазаўчора канец свету сустракаючы — зімой прачнуўся, мае коні абледзянелі, грызуць цуглі, вось-вось пачнуць агрызацца лаянкамі, а я, на шкарпэткі забыўшыся, крычу ім: глядзіце, лес туман рэжа, вочы закрыйце — крычу, але запомніце, а на падлозе піраміды курчацца, нараджаюць у пакутах зброю, я прастагну толькі: бывай, жалеза, і дзвярыма лясну — ну іх, ад веку глядзелі ў вочка дзівячыся, дачакаліся, кідаючы на вецер аднойчы, усё перапоўнена...

* * *

... два анёлы, над чорным морам неба, цяжкіх крылаў цёмны вінаград, далонямі цягнуліся? спявалі? моўкнасць, шопат пылу, лазой аблямаваная роўнядзь мора, дзве чорныя чайкі — анёлаў водбліск, у прах ссыпаецца гара, мне рукі засланяюць жыццё мора і я яблыкі ў лісце загортваю, вачэй не закрыць — усю ноч, а па хвалях да мяне нехта ідзе, рукой бачу, цесна мне, мне сцюдзёна, на мне цень крылаў, вінаграду чэрнядзь, на лістах строп неба — у цішыні яго губляю, паўстаюць вакол адмысловыя цені, ад неба цень сустракае цень зямлі, крокаў не чуваць ці гэта сэрца? навобмацак яблык — але хто яго трымае, лаза, у ёй ноч і там туляцца дзеці, каго я чуў, вобраз ночы пазначыў мне ветразь, горад, анёл, вінаград, у ім цэлы свет і з верхам збан наліты, і сніцца мне, яго ўжо нясуць, не крылы... рукі...

* * *

два анёлы, стаю ў кутку — я цень, я жывы? наўрад ці — гук не кране душы, я цішыню спяваю і пешчу ляноту, дае мне лапу, запаўзае ў вушы і бурыць сцены, гук тваіх крокаў, пустэча слухае іх, я мярцвяк, а побач — калі я вярнуся, ужо іншым, ці хачу... спіць Зямля і дождж — крокі над ёю, і спіць усё тое, што я назваў зямлёй, гузікаў трызненне далонямі атуляю і бавоўну разнімаю, раптам грук — ты дзверы? і я праглынаю дзверы, скрыгат петляў на зубах, клопат нечы ці жыў — не жыў, я Вас кахаў, туман, у ім мармур... я Вас — на грудзі насунулася пліта і я слізгачу па літарах, недзе побач, няма вачэй, а зачапіцца за штосьці няма ахвоты, цалую гронку — Зямля, кланяюся цені, б’юцца анёлы, картонныя ў іх мячы, я калею, каб збыцца часу, як быццам я ніколі і не кахаў...

* * *

... час абярнуўся — чорны лебедзь, хлеб не бярэ з рукі, а просіць сэрца, я прытуліў яго да грудзей — выгарэлых, попел да неба падымае вецер, крумкачом кружляе над нябёсамі, крылаў прах, няма вачэй і да сонца ваўкі цягнуць пысы, у золата талеркі коцяцца вочы іх, злосныя косткі, сыплюць жах на зямлю, чорным гаўканнем хмар мяхі набітыя, цішэй, сэрца, памаўчы — тут нехта памірае, нажом трызнячы, чуеш: дзе ты? і ў далонях твар схаваю, змоўкну ўжо, на скрані жыцця — рогат нечы, не! гэта падкрадаецца чорны лебедзь, з нябёс ваўкі шчэрацца, знаю, што ён просіць, чую песню, кленчу... выбачаю... толькі ён згарэлы просіць хлеба... хлеба і спакою пад нябёсамі...

* * *

... дайце памерці спакойна, літары — з якіх гэтае слова, гэтыя крыкі, белыя шпалеры, лесвіцы, я вяртаюся зноў, чорным небам адгукаецца золак, я цябе люблю, жыццё, ухваляю Бога, калі і грашу, прабач мне думкі, жыццё маё — старэча недатыкальная, пакой для рыб, ля лямпы віселіца, а калі вярнуся, то пад цягнік, цягнуць рукі, не лічыць, не цалаваць іх, людзі, эй! колы, сэрца грукат, і я ў тым цягніку, што рэжа, я ўжо спяваю, малюнак пяткі, крэсліць ад мяне да небакраю літары, не быў літарай, ціха лашчыў мармур, памёр... а ўсе кажуць — заплямлены, нават не жывы пілую дровы, трэска ад трэскі — няма віны ў братоў, над зямлёю шопат, а дрэвы ўсё спінай да ветру паварочваюцца... быў заплямлены, быў — рукой кранаю нябёсы, просьба?! ці сталі мы іншымі, а прыступкі складаюцца ў гімны, дзён маіх прыцемкі, халадзеча, жыццё я прасіў, і зноў цемрадзь, я любіў? дакрануцца да часу, пыл мой, народжаны быў я цяжарным, глянь, ад жыцця майго цені... гібенне, павута, бездань...

Андрэй КАДРЭНКА

# ЖЫЎ ЧАЛАВЕК

*С.САЛАМАЦІНУ*

Чалавек меў назву ці мянушку, ці прозвішча, ці нешта іншае і жыў у доме каля “Піўной конаўкі” — так звалі ларок. А яшчэ ён меў мару, альбо нешта падобнае да яе, але якая табе патрэба ў тым, што ён меў?

Калі чалавек паліў, а паліў ён шмат, то зусім не выпускаў з рота дым, мусіць, глытаў, і можа з гэтага выглядаў надта лёгкаважным, хістаўся ад кволага подыху ветрыку.

Так струменючыся, сцелючыся, змеючыся і выцягваючыся, жыў чалавек. І жыццё было не з лепшых, маруднае было жыццё.

Увечар, пасля працы ўплываў ён у сваю чатырохкутовую кватэру і запаўзаў пад ложак, дзе марыў аб сваёй мары. А калі заступала ноч і запальваліся зоркі, а зрэдку ліхтары, чалавек выбіраўся з-пад ложка і выплываў у адчыненае акно. І несла яго па ветры, па-над вуліцамі і завулкамі горада, над шапікам, у якім ён, здаралася, купляў дрэннае піва, над забруджанымі, састарэлымі муніцыпальнымі будынкамі, над іншай лухтой, і ніводнага разу не спаткаў чалавек нікога на сваім шляху.

А аднойчы ён памёр, мо ўвосень, і супрацоўнікі, ўздыхаючы і лаючыся пра сябе (тады накропваў дождж), знеслі цела на могілкі і, пахаваўшы нябожчыка, разышліся па сваіх кватэрах.

Надышла ноч, і з апляванай дажджом магілы выплыла яго... бо яна існавала і, падхопленая ветрам, панеслася прэч з гэтага горада, дзе з’явілася на свет яго цела і ў якім яно памерла.

Ільля СІН

# ЗЯМЛЯ ПАРАНАІДАЛЬНАГА ВЕТРАЗЯ

### ветразь які пачаў жыць калі камар быў расплюшчаны аб бясконцыя краты паперы

1

брук чакае маіх вуснаў скрозь грукат машын і трактароў і цеплавозаў ты пачуеш усхліпы дзіцяці

нас гоніць памерлы вецер

Калыханьне вачэй ты люляеш тут цмока і вось сонейка крыху павагаўшыся звалілася да мяне на калені, адскочыла і раструшчылася аб асфальт запальваючы мінакам цыгарэты. Азызлыя прыщемкі сноў прыходзяць зьнянацку каменьчыкі ў лёдзе варушацца ціхенька раструшчы свае ласкі

Адаліскі расстаньня.

брунатны вецер гнаў мяне далоў як лісьце да печы плыць было цяжка ў вочы траплялі нямоглыя парасоны шчасьлівых патэльні і маленькія кропачкі, маскі і абрыўкі крылаў. Валадарства Памерлае Птушкі.

І раптам раскрылася спарахнелае чэрава зямлі і паміж Пярцоўкай і Сьветлым Крыжам узьнікла расколіна бясконцыя твары целы валізкі сабачкі пацяклі разам з паверхняй у зьзяючыя дзьверы пекла...

... Я гляджу праз вокны сьціхлай кавярні "Супачынак жыцьця" як па начным праспэкце імкліва лятуць жоўтыя катафалькі. Дзе-небудзь ёсьць Уваскрасеньне. Мае аслаблыя рукі кранаюць музыку цішыні, што гарыць бы вулькан запальнічкі. Успыхнуў імглісты сьвет. Дзесьці за шацяй фіранак ёсьць тое ліловае валадарства. На агеньчыку маёй цыгарэты зьзяе ласка празрыстага неба.

2

лісьце адбівае сьвятло высокіх зораў, іх не відно, бо іх няма. Сьветла-зялёныя пошчакі салаўя. Не, гэта ня танкі.

спатольная, ты сядаеш поруч і глядзіш на адбіткі лісьця, бо яны адбіваюць зоры бо цябе таксама няма

Сёньня будзе світанак

калі чырвоны крыж дасягнуў неба пах мільёнаў золкаў ахапіў нас узбудзіў да дзеі і мы заснулі недзе ня тут

"Узьнясіся на нябёсы Божа і па ўсёй зямлі хай разыдзецца слава Твая"

кветкі на скалах імклівай ракі

У рэшце рэшт я выйшаў да мора вясёлка чырвонага сьпеву, the first five minutes after begining of life

"Так я хачу Так"

Вада

і

... Яны прайшлі Даліну Сьмерці. Бясконцая пустэльня ўспорвала цацкі. Лязг кайданоў і мужнасьць спэрмы ў вачах секла мазгі на часткі.

... Было дзіўна так пачувацца ў цёплым пакоі, дзе толькі туман нагадваў аб набліжэньні дня.

у вантробах вежы ўглыб памірае апошні Рыцар словы ільдзяныя кроплі на галаву

з парэзаных венаў цячэ грудное малако і поўніць прастору

пасярод гаю ёсьць барвовая прыступка хто там той ляціць наперад угару ён бачыць ён там ён кахае пралятаючы між пэндзлікаў сукведцыяў гоніць хвалі новым уздыхам расколваецца на сотні пялёсткаў раствараецца ў ліловай імгле іяляя-ааааааа

я даўно там але я тут

... калі наступны дзень са сьвярдзёлкаў падкрадзецца да мяне я зламаю

прысак не спатоліць ён пярэйдзе лёд і камень граніт манумэнт граніт манумэнт граніт манумэнт граніт манумэнт граніт манумэнт граніт манумэнт граніт манумэнт пакінем узьляту каб

І, зьнясілены, узыходжу на ложак, нож у пячонку, ведаю што я там

* * *

Там, дзе рака спускаецца зь неба і ўліваецца ў асфальт, дзе ўночы становіцца цуд, ёсьць акно, упрыгожанае й залітае кветкамі.

Фіялетава-зялёныя бязважкія імглістыя лісьці асьвятляюць квадрат у чорнай раме. Імклівы ручай, што нясе свае воды скрозь нас. Туды, дзе ёсьць адзіная фіялка, дзе сьвет поўніцца агніскам ліловых цяпельцаў дзе бясконцы прытулак траваў чакае мяне. Дом становіцца ціхім, нібы дождж. Ён напаўняецца суцельнем бязладных гукаў паўпозіркаў зьзяньняў і песень. Да вакна падыходзіць дзяўчына з рамонкавымі вачыма ў блакітнабэзавай сукенцы...

### пасьля муроў...

Адразу пасьля Зьдзяйсненьня ўзьнік халодны вецер. Ён прасьлізваў скрозь пратрухлую вопратку дня, нішчыў і трушчыў, разьдзіраў на шматкі астатнія кволыя словы, прабіваўся і вылашчваў змарнелыя ў бясплённай тузе мазгі, выпальваў вантробы, нівэлюючы пахі гуканьня. Імглістасьць вязьніцы прысьпела.

Там былі людзі — дзіўныя парасткі рэчаў і прагорклых сноў. Яны чакалі на лета і чакалі на вяртаньне. Людзі чакалі на лета і чакалі на вяртаньне. Яны чакалі на лета і чакалі на вяртаньне, чакаліналетачакалінавяртаньне, вяртаньне нашага ўсеагульнага героя Бэтоннага Рыцара, і на права бачыць гэтага героя, і на магчымасьць дакрануцца да ягонага геройскага вапняковага цела.

Гэты дзень прыйшоў. Мы чакалі на гэты дзень.

На вокнах зьявілася мураваная камэра-прытулак. Ейныя шэрыя ў сваёй абшарпанасьці сьцены імкліва пераходзілі ў ванітную белую столь. Форткі не было, і мэталёвыя дзьверы ў падлозе, лаз уніз, зьнікнуць у нырках зямлі, былі закладзеныя, заваленыя зжаўцелымі шматкамі размытых газэт, патэльнямі, глянцавымі дошчачкамі, гідраўлічнымі прэсамі, аскепкамі прамінулых крокаў. Тонкі сьвярдзёлак міргалкі замаруджанага сьвятла бы жорнава фіранак.

Было недарэчна й нязвыкла стаяць пад чыгунным дажджом, перабіраючы з нагі на нагу, перакідваючыся стамлёнымі позіркамі зьніклых у вагні красак. Яны чакалі на Зьдзяйсьненьне, на прыйсьце Бэтоннага Рыцара. Але шлях скрозь канвоі электрычнага току кватэраў забыты. Так, зразумела, ён забыты, як забываюцца ў кутках гнілыя аранжыкі і сонечныя бляшанкі, як ты забываеш мой позірк, як забыццё забывае забыць. Дый і дзіўна было б не забыцца, бо нашто памятаць шлях, бо Зьдзяйсьненьне адбылося.

Песьня пажухлых ластавак неслася па асьвечаным часам ходніку. Яны пакідалі існасьць, пакідалі сьвет, пакідалі ўсё каб працягваць ціхую музыку, што застыла, замерла, сьціхла між верхалінаў пустых і цьмяных халодных дрэваў. Дзяўчына ў цьвёрдым футарале, у фанэрных падзеях шукала маё сьцёртае імя на пяску. Калісь мы абыходзілі гострыя скалы, мёртвыя трубы, што бы гадзюкі з-пад сьнегу прасочваліся ў кроў. Той дзень быў падобны да фрагмэнтаў млявага лісьця, мае сьцежкі поўніліся яркім да агіды жоўта-ліловым сьвятлом, хуткабежнасьць плыняў прыносіць млосьць.

Рыцар быў падобны да скручанага зржавелага медзянога цьвіка, ён тэпаў, грукаў і сьцяліўся па глыбокіх нажах подыўму, што быў зроблены па загадзе народа зь перамалотага пэрцу і ваўчынага мяса. Уперамешку з квадратамі запоўненых цукеркамі трунаў ён пакідаў выключна станоўчае ўражаньне і дазваляў цешыцца да адчаю і роспачы. Паліцыя гнала сваёй пугай аблокі па стол. Вечар патанаў ва ўсеахопным падагрэтым малачцэ. Сьлізкія пачвары сьцякалі зь верхалінаў гмахаў, з азызлага выцьвелага малюнку неба, з глянцавых твараў мінакаў. (*)

Нагрэты стальны абцас прыцісквае да душных сутарэньняў, ціснe на шыю. Пан Хлыст тоіцца ў гэтых сумракавых адбітках ваканіцаў. Яна чакала на Зьдзяйсненьне, і рвала ў роспачы валасы і фіранкі. Мы ўсе чакалі на Зьдзяйсненьне. І яно сталася. РАТУЙЦЕ!

* Я чуў дзіўны цень за парогам, дзіўны нескамянелы барвовы ветрык трунак золкаў вечнасьці. Цёмнае вецьце: па-за табою ёсьць сьветач.

— Кляшчу, пакуль запалкай не прыпячэш, не адпусціць, — міжволі ўспомніў я.

— Якія запалкі? Мы культурны народ, у нас тысячагадовая гісторыя!

— Дык чаго енчыць, калі гісторыя. Ён жа на даху сядзіць, а не на карку...

І яшчэ хацеў нешта сказаць, але часу не хапіла, бо міліцэйскія штыхі ўжо рассякалі пляц. Я, натуральна, наўцёкі, ды дзе там. Выперазалі, што мае быць. Вярнуўся да хаты злосны, як не ў пару разбуджаны чмель. Халера іх пабяры, гэтых французаў, думаю. Калісьці панавыдумлялі абы чаго, а нашыя сарамлівыя дурні сёння ўспомнілі тое, аб чым французы самі даўно зыбыліся. І цяпер баламуцяць народ дыскусіямі. Ад сораму яшчэ ніхто ніколі не паміраў, а з дыскусіі часам такое пачыналася, ад чаго потым не адзін дыскутант сваім языком душыўся...

А зрэшты, чаго злавацца на французаў? Хіба я без іх не ведаў, што калі ў дзяцінстве бацька па срацы мала лупцаваў, дык потым міліцыянт абавязкова па спіне аддубасіць.

## ПРЫБЛУДА

У той час яшчэ былі каралі. І ў той час, калі былі каралі, жыў у дупле дуба за нашай вёскай зусім голы і невядома адкуль прыблуда.

Паколькі на пачатку гаворкі ўзгадваецца кароль, натуральна, апрануты і нехта голы, то, зразумела, што неўзабаве яны павінны сустрэцца. Ну дык вось...

Едзе неяк кароль праз нашу вёску і за выганам сустракае прыблуду.

— Табе не сорамна?! — абураецца кароль.

— А табе? — пытаецца прыблуда.

— Чаго мне саромецца? — дзівіцца кароль. — На мне і нагавіцы, і ўсё астатняе, што чалавеку мець належыць.

— Я — голы, а ў цябе і нагавіцы, і ўсё астатняе.

Узважыў кароль словы прыблуды і павінаваціўся:

— Сорамна, — кажа.

Паскідаў кароль з сябе ўсё ад капелюша да ботаў і паехаў далей голым.

— Як так можна, — накінуліся мы на прыблуду.

— Можна, — адказвае.

Хапае каралеўскія строі і подбегам у карчму да Шмуля.

Толькі той выставіў напоі, мы:

— Дзень добры ў хату.

І прычапіліся зноў:

— Хіба табе не сорамна?

— Сорамна, — кажа прыблуда, — аднаму піць.

І запрашае нас.

Селі мы і мяркуем: напэўна, гэты кароль апошні, бо не шануюць цяпер каралі свайго багацця. А што гэта за кароль, калі ён голы?

Так тры дні меркавалі, а на чацвёрты Шмуль кажа:

— Кароль, ён і голы — кароль.

Разумны чалавек Шмуль. Дай Бог яму здароўя. І мы выпілі за Шмуля.

Як хутка апазналася — дарэмна.

Шмуль абярнуўся сюды-туды і пытаецца:

— Ці не сорамна вам, хлопцы? Жонкі каторы дзень плачуць, дзеці ад рук паадбіваліся, жыта на зямлю палягло.

Узважылі мы словы Шмуля і пагадзіліся:

— Сорамна, — кажам.

Выпілі яшчэ кварту і пайшлі брацца за работу. А прыблуда пайшоў у сваё дупло. Зноў голы.

**P.S.**

Дарэчы, прыбудова, на якую Шмуль патраціў грошы ад продажу каралеўскіх строяў, нядаўна згарэла. Разам з карчмой.

— Бог не цяля, бачыць круцяля, — кажа на гэта прыблуда.

Можа, яно і так, але што гэта за жыццё без караля і карчмы? Цяпер, у нядзелю ці святам, нам нічога не застаецца, як шпацыраваць ля дуба і пляваць, альбо сабе пад ногі, альбо ў дзірку — хто лаўчэй патрапіць.

## КАБ У ПАРУ ЗАБУЯЛА БУЛЬБА

Былі мы і быў ён. Мы ведалі, чаго хацелі, а ён хацеў жыць. Садзіць бульбу і слухаць цёплым адвячоркам, як у ліпах гудуць хрушчы.

Нас было многа, а ён быў адзін. Але хаця нас было многа, не мы яму, а ён нам быў патрэбны. А нам хацелася, каб было наадварот. І мы нічога лепшага не змаглі выдумаць, як паабрываць хрушчам крылы.

Цяпер ён прыйдзе і стане слухаць, як гудзе наш рэй.

Ён, натуральна, засумаваў, але не пайшоў да нас. Цяпер ён слухаў свой сум і мы зразумелі, што яму ўжо ніхто не патрэбны.

— Пакіньце яго ў спакоі. Хай сабе жыве, як хоча, — раз-пораз ўгаворвалі мы адзін аднаго, аднак праз нейкі час зноў рабілі захады, каб неяк выцягнуць яго да сябе.

Так, нас было многа і мы былі разумныя, а ён быў адзін і дурны, як варона, але кожны з нас ведаў, што мы без яго нішто, і нашае мноства, і наш розум толькі рэха ягонага суму.

— Гэтак у нас нічога не атрымаецца, — аднойчы сказаў нехта. Трэба пайсці да яго і запытацца, што яму патрэбна?

І мы пайшлі і запыталіся, а ён адказаў:

— Каб у пару забуяла бульба.

— Хіба ад нас залежыць, у які час радзіць бульбе?

— Тады навошта вы?

— Мы ведаем, куды трэба ісці.

— Я таксам ведаю. Зранку трэба ісці на поле, а вечарам да хаты, дзе ў ліпах гудзе сум.

— Ну чаму ты такі ўпарты? Ты ж такі самы, як мы.

— Але вы не такія, як я.

Гэта так. Мы ведалі, чаго хацелі, а ён жыў, як чарвяк, ад вясны да вясны. Толькі што нам з нашага ведання, нашага мноства і нашага розуму, калі мы яму не патрэбныя, бо ў яго ёсьць свой сум і непазбыўны клопат аб тым, каб у пару забуяла бульба.

Альгерд БАХАРЭВІЧ

# ПАЎНОЧНАЯ АСЕТЫЯ

А пятай ільдзіне, калі мае свойскія жывёлы вярнуліся да хаты, я заўважыў на іхніх лапах Паўночную Асетыю. Паўночная Асетыя спаўзла з лапаў на лінолюм і насьцярожана прынюхалася. Потым яна зьнікла, але ненадоўга. Я абіраю бульбу — яна танчыць на кончыку нажа. Я палю цыгарэту — яна хаваецца ў дыме.

Паўночная Асетыя — надта зьменлівая дама, і калі ты захочаш яе ўявіць, уяві імгненьне, якое захутала ногі ў пухнатую коўдру й п'е гарбату.

Зьмяркалася. Мае свойскія жывёлы павячэралі й леглі спаць. Заснулі яны хутка — катаньне на лыжах па марозе спрыяе здароваму сну. Толькі вось іх сакавітыя адрыжкі перашкаджалі спаць мне. Я ляжаў з заплюшчанымі вачыма й думаў: пра што — няважна. Раптам дзьверы зарыпелі, і ў спачывальню зазірнула Паўночная Асетыя. Яна падумала, што я сплю, ціхутка прычыніла дзьверы й прайшла ў залю.

Спачывальня была сумесная з заляй. Іх адзьдзяляла тонкая сьценка, а ў сьценцы была шчыліна, празь якую ўсю залю цудоўна відно. Я ўладкаваўся ля шчыліны, імкнучыся не рабіць рэзкіх рухаў, каб не пабудзіць сваіх свойскіх жывёлаў. У залі граў духавы аркестр. Пад ягоныя ўсхліпы віхурылася — ад тэлевізара да канапы — некалькі джэнтльменаў і лэдзі. Паўночная Асетыя стаяла ля шафы зь нейкім чуваком у смокінгу. Чувак быў п'яны й шаптаў Паўночнай Асетыі на вуха: "Я ня буду пісаць пра жаночыя вусны, ня буду... Хай Міхасевіч піша! Я бы мог напісаць, што яны падобныя на дзьве гары ў промнях світальнага сонца, што гэтыя горы адбіваюцца ў возеры з чыстай крынічнай вадой, але ня буду!" Гарачы подых п'янага казытаў Паўночнай Асетыі вуха і яна сьмяялася, сьмяялася, сьмяялася...

Тое, што я ўбачыў, мяне асабліва не зьдзівіла: у маёй залі штовечар адбываюцца ўсялякія штукі. Здаецца, нічога цікавага: дзеці з пажарным кранам — маці, што пахне прасам — стыне пірог ружовы — горача ў роднай хаце. Але цяпер было нешта ня тое. Ня тое... ня тое... Духавы аркестр граў усё гучней, і раптам я зразумеў.

— Кантрабас фальшывіць! — закрычаў я, але мяне ніхто не пачуў.

— Кантрабас фальшывіць!!! — крыкнуў я яшчэ раз, але сьвет не зрушыўся.

Тады я ўскочыў на ногі і пабег у залю, бразнуўшы дзьвярыма так, што мае свойскія жывёлы папрачыналіся й зараўлі, хто як умеў. А я... Я спыніўся на парозе, бо ў залі нікога не было — толькі жоўтая скамянелая стома.

Як доўга я ня езьдзіў па марозе зь ледзяных узгоркаў, калі соплі ў носе і вецер у твар, і з-пад лыжаў цярушыцца Паўночная Асетыя. Можа б тады я спаў здаровым сном. Як свойская жывёла.

Услухайцеся: Паўночная Асетыя. Паўночная Асетыя для тых, хто ЧАКАЕ. Паўночная Асетыя. Асетыя. Ты і я.

# ДЖЫМ МОРЫСАН

## ГІСТОРЫЯ АДНАГА БУНТУ

### Біяграфічны нарыс

Джым Морысан (Джэймс Даглас Морысан), лідэр славутага амерыканскага рок-гурта "Doors" ("Дзьверы"), легенда рок-н-ролу і ўвогуле рок-культуры, нарадзіўся 8 сьнежня 1943г. у штаце Фларыда ў сям'і марскога афіцэра, які даслужыўся потым да контр-адмірала. Сын не апраўдаў бацькавых спадзеваў.

Бацька адрокся ад "непуцёвага" сына.

Джым кінуў прэстыжны рэжысёрскі каледж пры Каліфарнійскім універсітэце (выкладчыкам каледжа быў тым часам Стэнлі Крамэр, студэнтам — Фрэнсіс Копала), кінуў за два тыдні да здачы ўжо зьнятага дыпломнага фільма і напісаў бацьку аб сваім рашэньні стаць рокмэнам.

Морысан-старэйшы ўзначальваў ВМС ЗША ў Еўропе. Адмысловы вайсковец, чалавек істэблішмэнту, і так, пэўна, не радаваўся, што сын, замест таго каб на ўцеху яму пайсьці самавітым бацькавым шляхам, падаўся ў нейкае кіно, а тут...

Джым, мабыць, і ў школе не лашчыў самалюбства свайго "старога". Хоць і вылучаўся сярод аднакласнікаў розумам і нават прыстойнымі манерамі (выхаваньне ўсё-такі). Але — не кажучы ўжо пра пэўную экстравагантнасьць асобных учынкаў, якая пачынала ўжо тады выяўляцца, — што ён чытаў! Ягонымі ўлюбёнцамі былі Ніцшэ, Рэмбо, Блэйк, Бадлер, Джойс — і гэта ў Амерыцы, нават тагачаснай, нашмат менш прагматычнай, ніж цяпер.

Не знайшоўшы на сваёй жыцьцёвай паваротцы паразуменьня з бацькам, Джым больш ужо так і ня ўбачыў яго да сваёй сьмерці — ня ўбачыў і з сваёй, і, пэўна, з бацькавай волі. Дый з маці ніколі болей ужо не сустракаўся. У анкетах пісаў: "Бацькі памерлі".

Да сваёй сьмерці... •

Ці даведаліся бацькі своечасова пра ягоную гэткую раньнюю, у 27 з паловаю гадоў, сьмерць?.. Ці даведаліся пры жыцьці дый пасьля яго трагічнага сканаsuccession пра ягоную ашаламляльную звышславу сьпевака, кампазітара, аўтара тэкстаў песень, актора рок-сцэны, духоўнага куміра пакаленьня хіпі дый увогуле, што нашмат важней, куміра моладзі Амерыкі задуменнай?.. Можа й не. Бо ў розных сусьветах жылі яны з сынам. Менавіта не ў дужа розных і нават не процілеглых жыцьцях, — а ў розных вымярэньнях.

Наўрад ці многае сказала бацькам тое, што ўжо першы альбом створанага Джымам гурта "Дзьверы", які так і называўся — "Дзьверы", стаў "залатым" (па колькасьці прададзеных экземпляраў; хоць колькасьць гэтая, якая б вялікая яна ні была, ня йдзе ні ў якое параўнаньне з мастакоўскімі сілаю ды наватарствам плыткі).

Між тым, пачынаючы, Джым ня ўмеў іграць ані на якім інструменце й ніколі дагэтуль не сьпяваў, а музыку, і найвыдатнейшую музыку, пачаў пісаць ня ведаючы нотаў — і ці ж уведаў ён іх потым?! Выпадак, бадай, беспрэцэдэнтны, фенаменальны, асабліва калі ўлічыць, што многія выдатныя рок-музыканты, маючы кансерваторскую класічную адукацыю і здолеўшы працаваць адначасова на сумежжы рок-музыкі з музыкай сімфанічнай, як, прыкладам, бліскучыя "Пінк Флойд", так і не змаглі, пры ўсёй сваёй велічы і, насмелюся меркаваць, відавочнейшай агульнамузычнай перавазе, дасягнуць морысанаўскага пранікненьня ў душу, морысанаўскай энергетыкі, морысанаўскай магіі.

Ды як вытлумачыць гэты фенамен неадукаванага ў прафесійных адносінах таленту? Тым больш, што музыка, бадай, як ніякае іншае мастацтва, патрабуе гэтай самай адукацыі. У літаратуры, жывапісе, кіно мы ведаем багата прыкладаў кшталту Ясеніна, Анры Русо, Мікалая Пірасмані, пісьменнікаў-кінарэжысёраў, але вось у музыцы, нават у так званай лёгкай музыцы — мабыць, не. (Хоць, ведама ж, відавочна: сімфаністам Морысан ня стаў бы. Як відавочна й тое, што, узвялічваючы яго, і ў думках нельга мець тую навалач-безліч крыкуноў-скакуноў-гарлапанаў, безгалосых, творча бяздарных, пустагаловых і, цераз аднаго, без аніякае адукацыі, што маюць аднак цяпер на папсовай ці металёвай сцэне бязмежнай Расеі і ў каланізаваных духоўна ейных "культурных" закутках ашаламляльны па маштабах абалваненых натоўпаў посьпех.)

На маю думку, Морысан мог адбыцца і як кінарэжысёр (дарэчы, ягоны дыпломны фільм здаўся выкладчыкам задужа экстравагантным, у чым ужо бачная пэўная адзнака таленту), і як рэжысёр тэатральны, і як паэт, і як празаік малой формы, але — так склалася ягонае жыцьцё, менавіта ў рок-музыку пацягнула яго ў атмасферы 60-х гадоў, гадоў пасьля бітнікаўскіх, гадоў "пасьля Керуака", гадоў хіпі, бунту, высьпяваньня зусім новых тэндэнцый у сучаснай папулярнай музыцы (не поп-музыцы) — галіне мастацтва, што вось ужо тры дзесяцігодзьдзі пануе ў душах, падабаецца гэта каму ці не, бальшыні моладзі.

Вялікі талент, бадай, усюды талент, а інтэлект спрацоўвае і ў футболе (Круіф, Плаціні, Бэкэнбаўэр). Джым Морысан ад школьнае пары і маляваў адметна, і пісаў вершы, і празаічныя мініяцюры, а ўжо філасофіяй дык зачытваўся.

Ён стварыў ня проста рок-гурт. У аснове ягонага фенаменальнага посьпеху ляжалі зусім новыя музычныя і тэкставыя ідэі, абгрунтаваныя філасофскім светапоглядам. Прыкладам, аголенасьць, скажам так, выканаўчага нерву. І, зрэшты, гэта ўжо не ідэя, а сутнасьць, існасьць, прырода мастакоўскага і перадусім душэўнага таленту. А ў тэкстах песень на зьмену "Come on, baby" і г.д. паўсталі асацыятыўнасьць і метафарычнасьць разарванага, з падтэкстамі пісьма, дужа, па праўдзе, як для дадзенага жанру, — дужа, вядома, у найлепшым сэнсе, — інтэлектуальнага.* Усё гэта сталася для моладзі адкрыцьцём. Дадайце сюды бунтарскі дух, непрыняцьце хлусьні, двудушнага пурытанства бацькоў і ўсяго грамадства, жаданьне жыць зусім па-новаму, зусім інакш, не падпарадкоўваючы сваё існаваньне здабываньню грошай і дасягненьню так званага прыстойнага становішча ў гэтым самым ілжывым грамадстве, а кіруючыся маральнасьцю, духоўнасьцю, сапраўднасьцю, імкнучыся да волі й паветра, дадайце сюды ўсё гэта, — і вытлумачэньне натуральнасьці посьпеху Джыма Морысана стане элементарным, а надзвычайная, пранізьлівая да болю шчырасьць ягонай душы будзе яшчэ доўга гарантам гэтага посьпеху, як бы ні састарэлі музычныя прыёмы, тэхніка і г.д.

Банальнае адступленьне. Але, на жаль, багата было й ёсьць морысанаўскіх прыхільнікаў, а вось саміх Морысанаў, як у творчасьці, так і проста ў душы, усё менела й менее. Як там, так і тут. Усё роўна,



як Морысаны з'яўляюцца на сьвет — Боскаю воляй вечнымі закладнікамі — дзеля матылькавага юнацтва, што ў іхняй душы захоўваецца сапраўдным і няхай сабе і забруджаным, ды ўсё роўна чыстым — на ўсё жыцьцё.

І яшчэ, што важна ці што ўжо зьяўляецца ў вялікай ступені вынікам усяго папярэдняга: Морысан ашаламляў аўдыторыю нейкай асабліваю атмасфераю, што ствáралася вакол яго на сцэне, проста гіпнатызаваў слухачоў. Ён прымушаў маўчаць аўдыторыю рок-канцэрта. Такі факт, як мне здаецца, наймацней сьведчыць аб ягонай найрадзейшай духоўнай энергетыцы, аб падобнасьці й непадобнасьці вялікага да малога...

Як і ў ягонага ўлюбёнца Рэмбо, у Морысана дужа рана настала расчараваньне ў тым, чым ён займаўся. У росквіце маладое славы... Ды ў якім там росквіце!..

1964 — пачатак. 1966 — сьпеласьць. 1967 — посьпех. 1968—1969 — слава і абыякавасьць да яе, пратэст супраць яе, мажліва, нават нянавісьць да яе.

І ў гэтым выпадку, бадай, спрацаваў інтэлект. Наколькі творца быў вышэйшы за сваю аўдыторыю! Можа, ягонае жыцьцё й магло скласьціся інакш, калі б ён паспрабаваў стала прыйсьці да літаратуры. Але гэта ўсё гіпотэзы. Відаць, душа ўжо ня чула, ня прагла, стамілася... Можа, ёй і не наканавана было, пасьля іншага, зьдзейсненага, самавыяўленьня...

## ЛЕШАК КАЛАКОЎСКІ: НЕ СПРАЧАЙЦЕСЯ З АБСАЛЮТНЫМ РОЗУМАМ

**Можаце быць пэўныя, што калі б непахісны Юзаф Бахеньскі парупіўся дадаць да сваіх "Ста забабонаў" падрабязны індэкс аблудных інтэлектуалаў, імя Лешака Калакоўскага ўпісалася б у яго вельмі ўдала, недзе паміж Кантам і Кіркегарам. Пэўнасьць гэткая вынікае найперш з простай і шыракавядомай дыялектычнай працэдуры: пераварочваньня апанента "з галавы на ногі" (і наадварот). То ж бо, калі перавярнуць такім чынам самога Бахеньскага зь яго цьвярозым і празрыстым тамізмам, спробамі пабудовы "лёгікі рэлігіі" і вераю ў тое, што "кожнае дыханьне хваліць Госпада", то атрымаецца акурат скептычны і бажавольны Калакоўскі. Пры гэтым, праўда, застанецца нязьменнаю знакамітая іронія польскага эмігранта. Калакоўскі — "крывое люстэрка" любой дэманстрацыйна рацыянальнай тэалогіі (а таксама этыкі, палітыкі, культуры).**

**Лешак Калакоўскі нарадзіўся ў 1927 годзе ў Радаме і навучаўся філязофіі ў Лодзінскім унівэрсітэце. Прафесыйная кар'ера яго пазначаная сакратавай пячаткаю "ідэалягічнага разбэшчваньня моладзі". Прыблізна з такой фармулёўкаю Калакоўскага ў 1966 годзе выключаюць з ПАРП, а ў 1968 годзе — звальняюць з Варшаўскага унівэрсітэта, прафесарам якога ён зьяўляўся. Філёзаф знаходзіць прытулак у Оксфардзе, атрымлівае прафесуру ў Att Soufs College, выкладае таксама ў амэрыканскіх унівэрсытэтах (Каліфарнійскі, Бэрклі і Ельскі, Нью-Хэвэн). Сёньня ён — аўтар эсэістычных і тэарэтычных твораў з польскаю і агульнаеўрапейскаю славаю: "Размовы з д'яблам" (1965), "Культура і фетышы" (1967), "Галоўныя накірункі марксызму: узьнікненьне — разьвіцьцё — разлажэньне" (у 3-х т., 1976 — 1979гг.), "Калі Бога няма..." (1988) ды іншых.**

**Вальнадумны, часамі блюзнерскі стыль эсэ, показак, прыпавесьцей, "казаняў" Калакоўскага адразу ж змушае чытача абвыкла далучыць аўтара да разлеглых шэрагаў ваяўнічых і памяркоўных эўрапейскіх атэістаў. Гэтаму, безумоўна, спрыяе і ягоны антыклерыкалізм, і ліберальная фронда супраць любых аўтарытэтаў, а пасьлядоўная прафанацыя, "заніжэньне" сакральных сюжэтаў увогуле выклікае асацыяцыі з незьлічонымі "пацешнымі Бібліямі" (Леа Таксіля ці то Кандрата Крапівы). Аднак у сапраўднасьці іронія Калакоўскага вынікае з цалкам іншае і досыць далёкае ад атэізму крыніцы, якую ўмоўна можна назваць "закладам на Бога".**

**Яшчэ ў XVII стагодзьдзі Блез Паскаль, не знаходзячы болей прыродных доказаў існаваньня Бога, прапануе ўсяму свету пабіцца ў заклад на тое, што Бог усё-такі ёсьць. Пры гэтым ты выйграеш усё, калі гэта праўда, і не прайграеш анічога, калі не. У XX стагодзьдзі адмысловы "заклад" падхоплівае Калакоўскі, намагаючыся зазірнуць "па той бок" яго, правяраючы, ці сапраўды мы нічога не губляем, губляючы Бога. Тэалёгія яго — ані ў якім разе не спазіраньне "дзюркі ў нябёсах", вялікага Нішто. Калі ў ягоных тэкстах і бруіць бязьмежны абсурд, то гэта не нігілістычная мэтафізіка, але жывая (біблейская) псыхалёгія характараў (не Сартр, а хутчэй Іанэска). Калі Калакоўскі іранізуе, то ўнікае пры гэтым лятальнай хваробы іроніі — сур'ёзнасьці. Ён выкладае праблему Бога не з "экзістэнцыйна чэснай" пазіцыі "мэдычнага факта", але як дзіця, што гуляе ў "невядзімку" і падглядае за бацькамі (ці, як герой Васэгата-малодшага, які марыць паказаць язык нябёсам). Этыка Калакоўскага парадыруе аўтарытэты і зводзіць да бяссэнсіцы запаветы, але не займаецца "пераацэнкай" каштоўнасьцяў. І гэта абумоўлена яшчэ адной адметнасцю, якая вылучае ягоную філязофію з масы нігілістычных "тавараў першае неабходнасьці": Калакоўскі залішне ясна ўсьведамляе сабе, што, пазбавіўшыся ад Бога і абвергнуўшы традыцыйныя каштоўнасьці, чалавецтва зусім не набыло паўнаты дзеяздольнасьці. Ва ўзаемастасунках людзей заўсёды ўзьнікае нехта "трэці", каго немагчыма абвергнуць, бо ён штокрок мяняе свае довады, яго немагчыма прыстасаваць ці зрэфармаваць, бо ён не мае стала сутнасьці, і яго нельга перамагчы, бо на гэта проста не стае ўласных сілаў. Гэтага адвечнага "трэцяга лішняга" Калакоўскі распазнае і без хваста, і бяз рожак, і выкрывае яго кожны раз пад новымі маскамі: крывадушнай пабожнасьці, палітычнай дыктатуры, пабытовай нецярпімасьці ці міталягізаванай сэксуальнасьці. На думку філёзафа, змагацца з д'яблам — гэткая ж марная справа, як і спрачацца з Богам, таму найлепшы сродак — гэта "проста яго не слухаць".**

**Аляксей КРУКОЎСКІ**

# ЛЕШАК КАЛАКОЎСКІ

## ЖОНКА ЛОТА, або ЎРОКІ МІНУЛАГА



Так званы садомскі грэх, як паказалі найбольш сьвежыя досьледы праф.Цыжэрмана і праф.Нагеля, з'яўляецца толькі байкаю, выдуманаю ворагамі гораду Садому, каб яго зьбэсьціць. Зрэшты, Сьв. Пісаньне ня ўзгадвае аб ім выразна. У сапраўднасьці жыхары Садому ўвайшлі ў канфлікт зь вяршэнствам з-за цалкам іншых прычынаў. Менавіта яны даўмеліся да таго, што ўсе людзі з'яўляюцца роўнымі, вольнымі і недатыкальнымі ў справе жыцьця, ды выдалі ўставы, агалашаючы роўнасьць, вольнасьць і адмену сьмяротнае кары.

Дзеля наданьня гэтым уставам належнае моцы, у горадзе Садоме былі выдадзеныя наступныя дадатковыя ўставы:

1. Кожны, хто пярэчыў бы таму, што людзі вольныя, і дамагаўся б пазбаўленьня каго-кольвечы вольнасьці, мае быць укінуты ў вязьніцу зь бястэрміновым вырокам.

2. Кожны, хто пярэчыў бы таму, што людзі роўныя, і дамагаўся б увядзеньня няроўнасьці, мае стаць нявольнікам, пазбаўленым правоў.

3. Кожны, хто дамагаўся б увядзеньня сьмяротнае кары, мае быць асуджаны на сьмерць правамоцным вырокам.

Каб права было чынным, садаміты зарганізавалі велізарную сетку таемнае паліцыі, заданьнем якой было падслухоўваць у дамох і на вуліцах, ці не выплашае хто-небудзь меркаваньняў, спрэчных уставам, і ўсіх гэткіх на мейсцы арыштоўваць. Паколькі ж многія выказвалі сумненьні адносна адмены сьмяротнае кары, усе яны былі пастаўленыя перад сьпешнымі судамі і расстраляныя; прысуды гэтыя йшлі тысячамі, падобна як і прысуды ўвязьненьня за паддаваньне сумневу прынцыпу ўсеагульнае вольнасьці, ды як прысуды, што аддавалі ў нявольніцкі стан за аспрэчваньне ўсеагульнае роўнасьці.

Каб праца йшла спраўней, таемная паліцыя была зарганізаваная ў тры сеткі, зь якіх кожная займалася высочваньнем аднаго з трох азначаных злачынстваў. Часьцяком, аднак, здаралася, што агэнты Паліцыі Нагляду за Усеагульнай Роўнасьцю самі выказвалі сумнеў у прынцыпе ўсеагульнай вольнасьці і тады арыштоўваліся агэнтамі Паліцыі Нагляду за Ўсеагульнай Вольнасьцю; гэтыя апошнія ня раз непамысна выказваліся пра адмену сьмяротнае кары, і тады іх хапала Паліцыя Нагляду за Забесьпячэньнем Бясьпекі ад Сьмяротнае Кары і стаўляла іх перад судом. У выніку ўтварылася нязносная сытуацыя, бо паміж трыма сеткамі паўстала гвалтоўная нянавісьць, і кожная больш чуйна высочвала агэнтаў іншых сетак, ніж рэшту насельніцтва. Расстрэлы, увязьненьні і нявольніцтва набылі масавыя памеры, калі пачаліся даносы, у вялізным ліку складаныя ўзаемна паліцыянтамі, а вынішчаныя шэрагі кожнае паліцыі мусілі быць запоўненыя нанова: кожная, зрэшты, з лёгкасьцю вербавала агэнтаў сярод насельніцтва, бо ніводзін прыстойны чалавек ня мог адмовіцца ад супрацоўніцтва з арганізацыяй, на мэце ў якой было забесьпячэньне для насельніцтва Вольнасьці, Роўнасьці або Бясьпекі. Праз год чвэртка насельніцтва ўжо была расстраляная за апазіцыю адмене сьмяротнай кары, чвэртка сядзела ў вязьніцах за нязгоду з прынцыпам вольнасьці, чвэртка перайшла ў нявольніцкі стан за аспрэчваньне грамадзкае роўнасьці, а з астатніх дваццаці пяці працэнтаў акурат кожны працаваў у якой-небудзь з паліцыйных сетак.

Ягова прыглядаўся да гэтага са смуткам і непакоем. Яму вельмі не падабаліся тэарэтычныя падставы садамітаў. Бо Ягова быў тае думкі, што роўнасьць і вольнасьць ёсьць абсурдальным вымыслам, а праект адмены сьмяротнай кары з'яўляецца акцыяй, папросту скіраванай супраць яго; ня мог ён таксама сьцярпець, што садаміты гэтак палка бароняць свае прынцыпы. Тады ён выслаў уласных эмісараў, каторыя меліся прапагандаваць ягоныя ідэі ў заражаным горадзе: што людзі ані роўныя, ані вольныя, і што кара сьмерці мусіць быць захаваная. Агэнты тыя навязалі кантакты з нейкім Лотам, які ўжо даўно падаваўся падазроным таемнай паліцыі. І не бяз рацыі, бо па бліжэйшым знаёмстве Лот засьведчыў сваім гасьцям,

У 1969—1970 гады выходзяць яго тры кніжачкі вершаў і празаічных мініяцюр.

Дарэчы, як адметна, гаворачы аб паэзіі, як коратка й ясна раскрывае Джым Морысан той самы памянёны ўжо мною філасофскі светапогляд: “Сапраўдная паэзія нічога не гаворыць, яна адно паказвае мажлівасьці. Адчыняе ўсе дзьверы. Ты можаш прайсьці цераз любыя, прыдатныя табе”.

Як і Рэмбо ў гады свайго маланкавага літаратурнага жыцьця, Морысан, дзеля мастакоўскага спасьціжэньня сьвету, скарыстоўваў алкаголь і наркотыкі.

Непрыкаяная душа — і пітво, пітво, пітво...

І, як вынік, скандалы. Натуральнае асуджэньне з боку істэблішмэнту.

1969 год. Суд. За непрыстойныя паводзіны на сцэне, за абразу публікі — паўгода турмы, якую Морысану, праўда, зьведаць не давялося: ён быў вызвалены пад грашовы заклад. Але — часовая забарона канцэртаў гурта. А пасьля, калі забарона будзе скасаваная, канцэрты ўсё роўна стануць радзейшыя. А потым — яшчэ і яшчэ радзейшыя... Апошні адбудзецца 12 сьнежня 1970г. У студзені 1971г. будзе запісаны апошні дыск. Пітво... Прадчуваньне сьмерці. Ці наадварот: прадчуваньне сьмерці й пітво?.. Ці й так і гэтак?..

Джым Морысан памёр у Парыжы, спаміж 3 і 5 ліпеня 1971г. Паводле афіцыйнай версіі — ад сардэчнага прыступу.

Тут пачынаецца фантастыка. Ніхто так і ня ўбачыў яго мёртвым. Адна толькі сяброўка апошніх гадоў жыцьця сьцьвярджала, што была сьведкаю сьмерці й афарміла належныя дакументы.

Усе астатнія ўбачылі адно зачыненую труну. Ёсьць версія, паводле якой Морысан, змовіўшыся з сяброўкаю, інсцэніраваў сваю сьмерць і зьнік. Тады гэтыя ўцёкі з апрыкрае рэчаіснасьці яшчэ дзіўнейшыя за сэлінджэраўскія.

І так гэта, ці ня так, хацеў Морысан пасьмяротнай (што наўрад ці) альбо “пасьмяротнай” славы, але ён стаў Ідалам. Цікавасьць да ягонай творчасьці й асобы ўсё мацнее й мацнее.

У 1987г. было падлічана: па колькасьці “залатых” і “плацінавых” дыскаў — за ўсю няхай яшчэ і адносна кароткую гісторыю рок-музыкі, — абсалютным пераможцам стаў гурт, які памёр 17 гадоў назад і які пражыў усяго толькі 6 гадоў — гурт Джыма Морысана. Выснова напрошваецца, вядома, не максімалісцкая, але ж...

На сваім “золку” музыканты “Doors” зьбіраліся зарабіць мільён долараў. І яны яго зарабілі — зь лішкам.

Але Морысана, здаецца, гэта не цікавіла. Сын адмірала пісаў, сьпяваў, нарэшце, піў, пагарджаючы ўтулам і шукаючы ўласнае душы.

Дарэчы, тут шмат у каго могуць узьнікнуць сумненьні ў рэальнасьці версіі морысанаўскай містыфікацыі: на што б ён жыў тады пасьля сваёй сьмерці... знайшлі бяссрэбніка...

Ён мог пайсьці ў іншае, зямное, жыцьцё, як сапраўдная гэтага “жыцьця кветка”...

Ня ў тым рэч.

Расчынім дзьверы.

**P.S.** Тым, хто зацікавіцца літаратурнай творчасьцю Джыма Морысана глыбей, раім зьвярнуцца да кнігі: Jim Morrison. Poems. Lyrics. Notes. Джым Морысан. Стихи. Песни. Заметки. Выдавецтва “Суперсистема”, 1993. Укладаньне і пераклад С.Клімавіцкага.

**Алесь АСТАШОНАК**

---

* Сёньня, на маю думку, на самотнай вяршыні гэтых прынцыпаў рок-паэзіі, прынцыпаў, якія атрымалі сваё далейшае глыбокае разьвіцьцё, знаходзяцца вершы для песень расейскага рок-гурта “Наўціліус-Пампіліус” (паэт І.Кармільцаў), але гэта ўжо тэма асобнай гаворкі.

* * *

*Момант волі*
*калі вязень слепне*
*зірнуўшы на сонца*
*як крот*
*з нары*
*першае падарожжа дзіцяці*
*удалечыні ад дому*
*Гэта й ёсьць момант свабоды*

* * *

*Анёл прабягае*
*Скрозь успышку святла*
*Скрозь пакой*
*Здань — паперадзе нас*
*Цень — за намі*
*І спыніўшыся*
*Мы заўжды падаем.*

* * *

*Чаму я п'ю?*
*Каб пісаць вершы.*

*Часам калі гэта зацягваецца*
*і ўся прыкрасць патанае*
*ў глыбокім сне*
*Я абуджаюся*
*і ўсё што застаецца —*
*сапраўднае.*

*У зняможаным целе*
*дух мацнее.*

*Даруй мне Ойча бо я ведаю*
*што раблю.*
*Я хачу пачуць апошні Верш*
*апошняга Паэта.*

* * *

*Скрыжаванне*

*Сустрэўшы цябе ля бацькоўскай*
*брамы*
*Мы скажам табе што рабіць*
*Што ты мусіш рабіць*
*каб выжыць.*
*Пакінь гнілыя гарады*
*твайго бацькі*
*Пакінь атручаныя студні*
*і залітыя крывёю вуліцы*
*Увайдзі ў гушчар лесу.*

* * *

*Пошукі Бясконцага*
*сцерагуць ад часу і мора*
*вартавыя вежы й фартэцыі.*
*Яны перамаглі? Мажліва.*
*Яны ўсё яшчэ стаяць і*
*ў іх пустынных залах усё яшчэ*
*кружляюць душы мёртвых,*
*цікуюць за жывымі.*
*Хутка мы далучымся да іх.*
*Хутка таксама будзем кружляць*
*у лабірынце часу. Мы не будзем*
*сумаваць ні аб чым*
*хіба што адно аб адным.*

* * *

*Адкуль жаданне смерці.*
*Чысты аркуш ці голая*
*белая сцяна. Адна хібная*
*рыса, штрых. Памылка.*
*Непапраўная. Такая*
*непрыкметная сярод мільёна*
*іншых ліній,*
*што зліваюцца з ёю,*
*перакрываюць яе.*
*Але пачатковы штрых*
*застаецца, нанесены*
*золатам крыві, — зззяе.*
*Жаданне Ідэальнага Жыцця.*
*Каб я толькі...*
*Каб я толькі*
*мог пачуць*
*Як чырыкаюць*
*вераб'і*
*і адчуць як маленства*
*зноў*
*кліча мяне назад*
*Каб толькі я мог адчуць*
*як я зноў імкнуся*
*назад*
*і зноў*
*ахінуты*
*сапраўднасцю*
*Я памёр бы*
*Памёр з радасцю.*

## ДАРОГА НА ЗОЛКУ

Я з бацькам і дзед з бабуляй ехалі цераз пустэльню, на золку, і грузавік з рабочымі-індзейцамі, здаецца, сутыкнуўся з другой машынай, не ведаю дакладна, што там здарылася, але па ўсёй дарозе валяліся індзейцы, акрываўленыя.

Машына затармазіла і спынілася. Тады я ўпершыню пачуў страх. Мне, напэўна, было каля чатырох, бо дзіця, яно, бы кветка, паварочвае галаву па ветры.

Уражанне прыходзіць цяпер, як азіраюся назад, думаю пра гэта, нібыта душы гэтых мёртвых індзейцаў... можа, аднаго ці двух... звар'яцеўшы, хадзілі й хадзілі вакол мяне — і раптам скочылі мне ў душу. І яны ўсё яшчэ там.

* * *

Цаною якой ахвяры мог узнікнуць горад?

Няма больш блазнаў — апантаныя. Раздзяленне людзей на актораў і гледачоў — цэнтральная падзея нашай эпохі. Мы захоплены героямі, якія жывуць за нас і якіх мы караем. Калі б усе радыёпрыёмнікі і тэлевізары былі адключаны, усе кнігі й карціны спалены, усе відовішчы адменены, усе мастацтвы чужога паходжання...

Нам хапае “дадзенасці” пачуццёвага успрыняцця. З шаленцаў, што танчаць на адхонах, мы ператварыліся б у два вокі, што ўзіраюцца ў цемру.

* * *

Гаспадары. Падзеі адбываюцца па-за нашым разуменнем і незалежна ад нашай волі. Мы жывём для сябе. Мы толькі спрабуем падняволіць сябе іншых. Але спакваля ў нас развіваюцца асаблівыя здольнасці ўспрыняцця. Ідэя гаспадароў пачынае афармляцца ў асобных галовах. Мы павінны запісаць гаспадароў на стужку нашага ўспрыняцця, каб падарожнічаць па гэтым лабірынце ў час іх таямнічых начных з'яўленняў. У гаспадароў свае таемныя шляхі, яны ўмеюць маскавацца. Але яны выдаюць сябе. Занадта яркае святло ў вачах. Хібны рух. Доўгі й дзіўны позірк.

Гаспадары наталяюць нашую прагу вобразаў. Яны даюць нам кнігі, канцэрты, выставы, спектаклі, кіно. Асабліва кіно. З дапамогаю мастацтва яны бянтэжаць нас, асляпляюць і падпарадкоўваюць сабе. Мастацтва аздабляе муры нашай вязніцы, забаўляе нас і робіць нас абыякавымі.

**Пераклаў з ангельскай**
**Алесь АСТАШОНАК**

---

што, на ягоную думку, значная частка народу ўтварае ніжэйшую расу і павінна быць утрыманая ў канцэнтрацыйных лягерох, а ў выпадку непаслушэнства караная сьмерцю, — погляды, што былі абразаю для гораду Садому. Агэнты апавясьцілі яму тады апошнія пляны свайго вярхоўніка: Ягова, раздражнёны філязофіяй садамітаў, пастанавіў спаліць цэлы горад — пры гэтым уважаючы, што ён, Лот, не падзяляе гэтае філязофіі, ён будзе выправаджаны і ўратаваны ад згубы.

Так і сталася. Эмісары на досьвітку вывелі з гораду Лота і ўсю ягоную сям'ю, пасьля чаго зь неба абурылася вогненная залева, і праз хвіліну цэлы горад стаяў у полымі.

Цяпер, уласна, пачалася вядомая справа жонкі Лота. Пасланцы Яговы сурова заказалі ёй аглядацца назад падчас уцёкаў: “Калі азірнешся, — сказалі яны, — гэта будзе азначаць, што ты сумуеш па мінулым, па прынцыпах Роўнасьці, Вольнасьці і Бясьпекі, асуджаным Богам. Памятай, такія ахвоты цягнуць за сабою сьмяротны прысуд, які Ягова ўжыве тым хутчэй, што хоча зацьвердзіць тваю сям'ю ў перакананьні таго, што ўжываньне сьмяротнае кары справядлівае”.

Аднак жа Лотава жонка, у адрозьненьне ад свайго мужа, як толькі апусьціла гарадзкую браму, засумавала па Вольнасьці, Роўнасьці і Бясьпецы, засумавала па мінулым, якога аказалася пазбаўленая. Зь цяжкім сэрцам пакідала яна свой горад, і неадольная спакуса азірнуцца на яго разьдзірала яе ўсё мацней, у той час, як за яе плячыма аддаляліся крыкі жыўцом палаючых садамітаў. У пэўнай хвілі жаданьне авалодала ёй з такой неўтаймаванай сілаю, што яна хуткім рухам абярнулася і глянула на палаючы горад. У той самы момант, як вядома, Ягова ператварыў яе ў белую брылю хлёрыстае соды зь няясна абмаляваным чалавечым кшталтам.

У грамадцы ўцекачоў запанавала замяшаньне. Лот падскочыў да праваднікоў і крыкнуў:

— Жонка-мінэрал! Напраміла Бог, зрабіце што-небудзь, каб яе аджывіць!

— Цяжка, бо яна сама вінаватая, — адказаў адзін з агэнтаў Яговы. — Яе папярэджвалі. Чаму ёй закарцела вяртацца ў мінулае?

— Але ж яна не хацела вяртацца ў мінулае! Яна хацела толькі пабачыць яго ў часе згубы.

— Жадаць зазірнуць у мінулае, — адрэзаў агэнт сурова, — значыць, жадаць сабе яго вяртаньня. Іначай дзеля чаго было б на яго пазіраць?

— Але ж дзеля таго, уласна, каб усьцешыцца ягоным зьнішчэньнем!

— О не, дружа! Ты павінен навучыцца таму, што заглыбленьне ў мінулае належыць да найвялікшых грахоў пад сонцам Яговы.

— Але чаму ж?

Каб не пачэрпваць зь яго зьвестак, якімі чалавеку валодаць непажадана.

— Дык жа ўласнае мінулае мы ведаем і так. Якія яшчэ таямніцы можна ў ім выкрыць?

— Ягова ня хоча, каб тое, што праміула, параўноўвалі з тым, што ёсьць і мае быць. Пра мінулае трэба забыць, бо інакш...

— Бо інакш будучыня будзе ацэненая недастаткова, — дакончыў Лот.

Агэнт паблажліва пасьміхнуўся:

— Ты вельмі прыткі, мой дружа. Але ты ня ведаеш усяго. Людзі сумуюць па мінулым не таму, што яно лепшае, але таму, што яно мінулае. Бо — запомні ўважліва гэтую ісьціну — чалавек — гэта толькі мінулае. На цябе ўскладаецца цэлакупнасьць твайго папярэдняга жыцьця, гэта значыць мінулае; па-за ім цябе няма: адабраць у цябе мінулае — гэта значыць забіць цябе. Можна адабраць мінулае паступова, неўпрыкмет, калі, аднак, яго адбіраюць раптоўна — чалавек перастае існаваць. Твая жонка пабачыла ў адзін момант гібель свайго мінулага і таму мусіла загінуць.

— Тое, што ты гаворыш, унутрана супярэчлівае. Перад гэтым ты сказаў, што Ягова зьнішчыў маю жонку за тое, што яна не хацела забыцца на мінулае, а цяпер — што сама сябе загубіла, паколькі ўласнае яе мінулае аказалася вынішчаным.

— Супярэчнасьць — таямніца Яговы, — прамовіў агэнт ужо менш прыязна. — Твая жонка, сумуючы па мінулым, настройвала супраць сябе Ягову, і, хаця й жадала сябе ўберагчы, ды, аглядаючы мінулае ў руінах, сама сябе зьнішчыла. Яе канец, уласна, вынікае з судзеяньня Яговы й яе самае.

— Калі так, то Ягова, каторы хоча мяне ўратаваць, у той жа час хоча мяне і загубіць.

— Ну, ня ў фізычным сэнсе, — вымавіў агэнт, ужо зь нецярпеньнем. — Ён хоча толькі, каб ты стаў інакшым чалавекам і забыўся на праклятыя ідэалы Роўнасьці, Вольнасьці і Бясьпекі. Ты ўвойдзеш у краіну дэспатызму, няроўнасьці ды сьмерці і, атаясаміўшы сябе зь ёю, станеш інакшым Лотам, страціш тоеснасьць, сфармаваную ў сутыкненьні з ранейшым сьветам.

— Дзеля чаго ж, аднак, мая жонка зьнішчаная фізычна?

— Досыць гэтага! — гукнуў агэнт, на гэты раз сур'ёзна раз'юшаны. — Я не маю намеру болей вытлумачваць табе боскія таямніцы. Табе здаецца, што ты мне роўны і можаш спрачацца са мною, колькі заўгодна. Гэтаму канец! Сам пагадзіўся з тым, што ідэя роўнасьці — гэта вытворная бздура. Будзь ласкавы ўлічыць гэта і прыймаць з задавальненьнем тлумачэньні зверхнікаў, бяз мудраваньня і рэзанэрства. Лічу, што размова скончаная, мая цярплівасьць і так скарыстаная звыш меры.

І Лот пацягнуўся смутны да новага краю, разважаючы паціху над таямніцаю Мінулага, Роўнасьці, Вольнасьці ды супярэчнасьці Яговы. А вось якія маралі можна здабыць з Лотавае пэрыпэтыі:

Мараль першая: у справе мінулага. Нам падаецца, што мінулае ёсьць нашаю ўласнасьцю. Але ж усё наадварот — гэта мы з'яўляемся ягонай уласнасьцю, паколькі мы не ў стане ўчыніць у ім зьмены, затое яно запаўняе абшар нашага існаваньня.

Мараль другая: у справе мінулага. Вяршэнства, якое забараняе аглядацца на мінулае, клапоціцца выключна пра нашае дабро. Бо па сутнасьці, дружа, азірніся назад — і скамянееш.

Мараль трэцяя: ditto. Калі застацца пазбаўленым мінулага — значыць загінуць, і калі разам з тым заглыбляцца ў мінулае — значыць загінуць таксама, выйсьце толькі адно: утрымліваць мінулае, удаючы пры гэтым, што яго няма. Мяркуеце, што гэта надзвычай цяжкая рэч? Але ж яна ўдаецца шмат каму. Няхай жыве шмат хто!

## КАІН, або ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ ПРЫНЦЫПУ: КОЖНАМУ ПА ЗАСЛУГАХ

Як вядома, Каін быў земляробам, Авэль жа пастырам статку. Таму было, відочна, натуральнай рэччу тое, што першы ўсклаў Богу ахвяру з кукурузы, ільну-буракоў і тым падобных пладоў — другі затое з тлушчу, мяса, каракуляў ды бараніх грудзінаў. Але, на жаль, такім жа натуральным было й тое, што з пункту гледжаньня рынкавых цэнаў ахвяра Авэля з'яўлялася дарункам непараўнальна большым і што ўласна ёю зацікавіўся Бог, а на прэзэнты Каіна пагардліва махнуў рукою і можа нават прамовіў штосьць ня вельмі гжэчнае: зрэшты, няма прычыны меркаваць, што ён быў вэгэтар'янцам — тады, быць можа, справа б набыла абарот зусім супрацьлны. У кожным разе так сталася. Наступствы вядомыя.

Гэткая рэакцыя Бога на ахвяры братоў — найлепшая інтэрпрэтацыя прынцыпу: кожнаму па заслугах. Прынцып жа гэты з-за няўдалае фармулёўкі вытлумачваўся фальшыва. Слова “заслугі” абмыльна даводзіць нам, што пры разьмеркаваньні платы бярэцца пад увагу толькі высілак чалавека, колькасьць укладзенай працы й добрае волі. Згодна такой сыстэме, відавочна, ахвяры абодвух братоў былі б роўныя, бо кожны даў тое, чым валодаў дзякуючы ўстаноўленаму падзелу працы: адзін — кукурузу, другі — бараноў. Але ж тут менавіта Бог выявіў істоту справядлівасьці. Справядлівасьць у разьмеркаваньні платы ня можа вылучаць аб'ектыўныя варункі, у якіх праца, ці тыя “заслугі” прыводзяць да вынікаў — ня можа браць пад увагу тое, што кагосьці лёс зрабіў земляробам, а не гадавальнікам гаўяда. Яна ўважае толькі аб'ектыўныя вынікі працы. У рэшце рэшт Каін хіба мог парупіцца пра што лепшае; у найгоршым разе ён мог абакрасьці свайго брата і з трафэяў, у сваю чаргу, скласьці ахвяру; гэта не было б вельмі ўхвальным, але напэўна значна мякчэйшым у сваіх выніках, чымся тое, што адбылося, ды й, зрэшты, можна думаць, што і Бог глядзеў бы праз пальцы на дробную правіну, зь якое ў выніку атрымаў бы сам пажытак. Але Каін — не! Той хацеў быць чэсным і прынёс тое, што меў, а потым не вытрымаў і не мог зьнесьці несправядлівасьці, якую, па свайму перакананьню, спазнаў. Уласна кажучы, ён праявіў альбо непасьлядоўнасьць, альбо недасьведчанасьць і наіўнасьць. Калі ён загадзя ведаў, на чым грунтуецца справядлівасьць, але вырашыў дзейнічаць чэсна — павінен быў вытрымаць у гэтай ролі да канца і не паддавацца злосьці з-за фактаў, якія можна было лёгка прадбачыць. Калі ён ня ведаў — выявіў такую скрайнюю наіўнасьць, што, уласна, ня варта яго шкадаваць.

Мараль: будзем налічваць зарплату адпаведна рынкавай цане, а не згодна з тым, колькі мы напрацаваліся над нашымі вырабамі. Рэч, якую даказалі многія вучоныя — у тым ліку і Карл Маркс — ня кажучы ўжо аб штодзённым. Наш прыяцель ці брат і возьме пад увагу нашую добрую волю, намаганьні, высілкі і пачцівыя жаданьні; але не прыяцель і не брат вымерыць нам справядлівасьць, каторая ёсьць грамадзкім або боскім утварэньнем, каторая заўсёды з'яўляецца правам, якое падрахоўвае вынікі нашых дзеяньняў, а не нашых інтэнцыяў. Трымаючыся гэтага прынцыпу, мы можам нямала памножыць сваё шчасьце: кожны грош, несподзявана атрыманы насуперак рынкавай цане, мы будзем лічыць надзвычайнаю ўсьмешкаю лёсу; затое, пакуль мы загадзя лічым, што атрымаем яго насуперак справядлівасьці, будзем жыць у няспынным лютаваньні, жывіць крыўду да цэлага сьвету і ўрэшце можам уласнага брата забіць са злосьці.

Пераклад з выданьня:
Leszek Kołakowski.
Bajki rożne Opowiesci biblijne Rozmowy z diabłam
Warszawa,Iskry, 1990.

**Пераклаў з польскай Аляксей КРУКОЎСКІ**






У гэтым нумары "ЗНО" - жывапіс Артура Клінава

## Ліст у "ЗНО"

# РАЦЫЯ, ЭКЗІСТЭНЦЫЯ І БЕЛАРУСКІ "КАНСТРУКТЫВІЗМ"

## Развагі на тле філасофскіх навук

Калі я чую чарговы енк па "беднай Беларусі", мне ўсё радзей хочацца плакаць, а часьцей бярэ злосьць: "Чаму ж яна такая бедная? Чаго ёй так не хапае?" І чым далей, тым больш пераконваюся, што не стае ёй звычайнага розуму, цьвярозай яснасьці і мужчынскай логікі, той самай "рацыі", ад якой так "пацярпела" перасычаная ёю заходняя філасофія. Вядома — Беларусі не стае і суб'ектыўнага сьветаўспрыманьня, уласнага "ірацыяналізму", але найперш адчуваецца дэфіцыт філасофіі рацыянальнай, "будаўнічай" і "канструктыўнай".

Бо разбураць у нас пакуль няма чаго. Такую раскошу могуць дазволіць сабе хіба французы ці немцы, а нам гэтая "мода" наўрад ці па "кішэні". Усе намаганні напоўніць беларускае рэчышча дасягненнямі экзістэнцыялізму ці дэканструктывізму цікавыя як інтэлектуальныя высілкі, але сумніўныя як нашы духоўныя і культурныя перспектывы. Усяму свой час: "Еўропа дапяла да забясьпечанай старасьці, а мы... — "старцы", але маладыя.

Пасьля такога "разьвеньчваньня" Захаду па завядзёнцы погляды аўтаматычна скіроўваюцца да Усходу і там утыкаюцца ў "вялікую расейскую сьцяну", складзеную з нягеглых камянёў ірацыянальнага паходжаньня. І хоць таўды-сяўды на іх спрабавалі накінуць "еўрапейска-рацыянальную" гуньку, усякі рацыяналізм урэшце толькі падкрэсліваў выпіраўшы з усіх прагалаў расейскі ірацыянальны падмурак.

Апафеозам стала савецкая эпоха, якая метадам дыямату і гістарычнай дыялектыкі давяла поўную перамогу вечна жывога ідэалагічнага дагматызму. Імперскасць, месіянства, статкавы калектывізм (або — самаўладзьдзе, праваслаўе, народнасьць) — ці не гэта стрыжань расейскага мудралюбства, пачаткі і канцы большасьці тамтэйшых філосафаў. Хоць зрэшты тут не толькі расейская праблема, але і нашая бяда, бо, прынамсі, адным бокам мы прылеплены да тае "сьцяны" і сказаць, што мы там не былі і нічога не бачылі, было б недаравальным самападманам. І былі, і бачылі. А ў час, калі захістаўся "ўсходні мур", павінны ўзяць сваё, а як што прыдатнае, то (не пашкодзіць) і чужое. Ня трэба грэбаваць ніякай спадчынай, а тым больш гадаваць новыя комплексы, супрацьлеглыя старым. Гаворка, вядома, не пра межы-тэрыторыі, а пра культурную, у тым ліку і філасофскую, спадчыну апошняга стагодзьдзя.

Аднак галоўнае не гэта. Справа ў тым, што само па сабе запазычваньне чужога і механічнае "перамешваньне" (напрыклад, "еўрапейства" з "расейшчынай") ні да чога добрага не прывядзе: разнародныя "рэчывы" рана ці позна раз'ядноўваюцца. Тут неабходна ўмяшаньне "каталізатара", актыўнай творчай волі, сьвежай інтэлектуальна-духоўнай плыні, якая здольна, "пераварыўшы" аскепкі спадчыны, нарадзіць жыццяздольнае і арыгінальнае сваё. Цяжка прадказаць, што гэта будзе — нэасхаластыка, філасофія постхрысьціянскага існаваньня, маўклівая гармонія "сярэдзіннага шляху" канфуцыянскага кшталту, эка-духоўны рацыяналізм, нацыянальны пантэізм, касьмічны плюралізм ці нешта зусім іншае. Відаць, не ў назовах справа, бо шляхі філасофскага разьвіцьця наўрад ці падлягаюць дыдактычным замовам, заклікам ці штучнай сымбалізацыі. Часьцей гэтыя з'явы бываюць другаснымі (ці ў лепшым выпадку — паралельнымі) адносна ўнутранай структуры самога працэсу. Тым больш, што разьвіцьцё філасофіі можа ісьці не адным, а некалькімі шляхамі, канкурэнцыя між якімі якраз і магла б надаць жыцьцяздольнасьці і моцы беларускай экзістэнцыі, выратавальнай шырыні ды перспектыўнасьці нашай культуры.

Такім чынам, і запозьнены рамантызм, і нацыянальны канструктывізм, і дэканструктыўны плюралізм ёсьць сутнасьць і патрэба сёньняшняга дня, наша бяда, надзея і непазьбежнасьць. Што з іх пераважыць? Ці на пэўны час усталюецца раўнавага? Што выбіраеш ты — жывы, раздвоены, але пакуль думаючы чалавек? Ёсьць спадзяваньне, што гэта будзе... проста жыцьцё. Даволі прагматычнае, у меру дэструктыўнае і, вядома ж, з добрай доляй ірацыянальнай закваскі, той, што падтрымлівае здаровы дух і аптымізм любога пачынаньня. Нават такога безнадзейнага, як філасофія жыцця ці беларускі канструктывізм.

**Васіль АЎРАМЕНКА**

*Рада "ЗНО": Валянцін Акудовіч (адказны за выпуск), Алесь Разанаў, Ігар Бабкоў, Юрась Барысевіч, Валерка Булгакаў, Сяргей Мінскевіч.*

*Тэксты друкуюцца паводле аўтарскага правапісу.*